Карэспандэнцыя з Беларусі

# У тэатры над Заходняй Дзвіной



*Фрагмент са спектакля „Несцерка“ В. Вольскага.*
*Фота У. Казлова*

Над зеленаватым блакітам Заходняй Дзвіны ў Віцебску стаіць гэты дом коласаўцаў. Коласаўцамі называюць творчы калектыў, які вядзе свой летапіс з лістапада 1926 года як Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр імя народнага паэта БССР Якуба Коласа.

Гэты калектыў мае свае вялікія традыцыі. Тут, на гэтых падмостках, загаварылі на беларускай мове Гамлет і Фігара, Фёдар Пратасаў з „Жывога трупа“ Л. Талстога і Ягор Булычоў, Іван Хлестакоў і Ларыса Агудалава з „Беспрыданніцы“ А. Н. Астроўскага, кароль Лір і матросы з „Разлома“ Б. Лаўрэнёва...

На тутэйшай сцэне ў канцы трыццатых гадоў упершыню ў Беларусі быў паказаны вобраз Уладзіміра Ільіча Леніна, які ў драме М. Пагодзіна „Чалавек з ружжом“ стварыў народны артыст Саюза ССР Павел Малчанаў. Звыш чвэрць стагоддзя не сходзіць з афішы тэатра вясёлае і заўсёды прывабнае для гледачоў імя Несцеркі — героя паданняў і легенд беларускага народа, мужыка хітрага і смелага ў сваім імкненні да шчасця, якое бачыць у шчасці іншых, бліжэйшых і далейшых суродзічаў сваіх, землякоў, працаўнікоў. Першым выканаўцам гэтай ролі ў камедыі, напісанай В. Вольскім, быў выдаючыся майстар сцэнічных пераўтварэнняў, народны артыст Саюза ССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Аляксандр Ільінскі. Калі мы ўспомнім, як натхнёна і пераканаўча іграў ён сёння Несцерку, а заўтра генерала Печанегава ў горкаўскіх „Ворагах“, у адзін вечар Палонія і першага магільшчыка ў „Гамлеце“, а на наступны дзень нашага сучасніка, грамадзяніна сваёй краіны сярэдзіны XX стагоддзя, то можна ўпэўнена сказаць, што пад дахам коласаўскага тэатра сабраліся нештодзённыя таленты.

І калі хто-небудзь з іх у думках гартае старонкі сваёй біяграфіі, яму на дапамогу прыходзіць „Несцер“ сцэны ў Віцебску — народны артыст БССР Цімафей Сяргейчык. І вось чаму ён — аўтар цікавейшай мемуарнай кнігі „Заметкі акцёра“. Аўтар старанна, як кажуць, па крупіцах збірае факты і абагульняе багацейшы вопыт уласнага жыцця ў мастацтве і роднага яму калектыву. На старонках гэтай хвалюючай кнігі адлюстраваны гады студыйнай вучобы некалі маладых стваральнікаў тэатра ў Маскве, іх першыя самастойныя крокі, садружнасць з такімі цудоўнымі педагогамі і рэжысёрамі, як Софія Гіяцынтава, Валянцін Смышляеў, Аляксей Дзікі, Канстанцін Зубаў, з драматургамі Кандратам Крапівою, Міхаілам Грамыкам, Андрэем Макаёнкам, Канстанцінам Губарэвічам, Віталем Вольскім, Пятром Глебкам, Ільёй Гурскім, Аркадзем Маўзонам. І, зразумела, з Якубам Коласам, чые драмы „Вайна-вайне“, „У пушчах Палесся“, інсцэніроўка трылогіі „На ростанях“ ішлі ў гэтым тэатры. У творчым яднанні з мастакамі вялікай грамадзянскай страсці складваліся традыцыі мастацтва коласаўцаў, якія ўбіралі ў сябе пашану да нацыянальных вытокаў творчасці, прынцыпы народнасці ў сцвярджэнні са сцэны светлых ідэалаў сучаснасці.

Як эстафету, прымаюць такое багацце і маладыя сілы тэатра.

Акцёры... калі сонца над Заходняй Дзвіной падымаецца да зеніту, яны збіраюцца ля сцен свайго тэатра. Тут — сэрца кожнага з іх, тут іх лёс. Рака спакойна нясе на сабе адлюстраванне воблакаў і бляск залатых промняў, — яна ідзе, як час. Да яго, да нашага бурлівага і імклівага часу, поўнага здзяйсненняў, прыслухоўваецца гэты тэатр...

Званок. Рэпетыцыя пачалася. Ідуць пошукі самых дакладных інтанацый, верных акцэнтаў у ролі, выразных мізансцэн, акрэсліваюцца ўзаемаадносіны партнёраў. Усё гэта зліваецца пасля ў адзін сплаў — тэатральнае відовішча. Яго ўбачыць глядач у вячэрнюю пару, калі на вялікую сцэнічную пляцоўку ўпадзе свет рампы і прагучыць першае слова... А ў журнале загадчык трупы ўкажа, што адбыўся такі-то спектакль і ў ім удзельнічалі такія-то выканаўцы, — гэта будні. На сцэне ж будзе свята.

У гэтым упэўнены ўсе паклоннікі і любіцелі тэатра. Так было тут з дня яго адкрыцця і працягваецца вось ужо 50 год. Хіба выпадкова віцяблянін заўсёды паказвае госцю сярод іншых цікавых рэчаў горада і свой любімы тэатр?! Не звонку, а запрашае яго на спектакль, дзе неўгамонны Несцерка вядзе барацьбу з панамі, рэвалюцыйныя матросы штурмуюць цвярдыні старога рэжыму, а людзі нашых дзён вырашаюць вялікія і малыя справы пары стварэння!

**Барыс Бур'ян**



*Будынак Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску.*
*Фота Э. Трыгубовіча.*



## Запаведнікі злачынстваў

...„Фізічны гвалт у нашых школах дасягнуў свайго максімуму. Я не стаў бы настаўнікам у Вашынгтоне за зарплату нават у тры разы вышэйшую, чым я маю цяпер“. Гэтыя словы належаць не якой-небудзь хатняй гаспадыні ці сціпламу бібліятэчнаму работніку. Іх аўтар — вопытны афіцэр амерыканскай паліцыі Тор Бевінс, які на працягу апошніх гадоў ажыццяўляе паліцэйскі нагляд над групай вашынгтонскіх школ.

Гэта ў нейкай ступені сенсацыйнае прызнанне мае сапраўдны сэнс. У апошнія гады амерыканскія школы ператварыліся ў своеасаблівыя злачынныя запаведнікі. Пры гэтым, нягледзячы на шматлікія мерапрыемствы ўлад, злачыннасць няспынна ўзрастае.

У буйнейшым амерыканскім горадзе Нью-Йорку дзейнічае больш чым 350 так званых школьных банд, якія кантралююць не толькі пераважную большасць вучняў, але і некаторых настаўнікаў. Больш за 80 тысяч вучняў гэтага горада рэгулярна ўжываюць наркотыкі. Не дзіўна таму, што прагулы ў школах дасягаюць тут велізарнай лічбы — амаль 25 працэнтаў.

„Для амерыканскага вучня, — гаворыць настаўнік адной з нью-йоркскіх школ, — вельмі проста ўстаць і даць аплявуху свайму настаўніку, калі апошні яго чымсьці не задавальняе“. Аб больш сур'ёзных здарэннях можна прачытаць на старонках газет і часопісаў. Так, у Вашынгтоне 28-гадовая настаўніца была збіта, а потым згвалтавана перад усім класам, калі яна запатрабавала, каб адзін з хуліганаў пакінуў класнае памяшканне.

У горадзе Атланта пятнаццацігадовы вучань быў выгнаны з класа. Вярнуўшыся праз паўгадзіны, ён трыма выстраламі забіў свайго „крыўдзіцеля“-настаўніка.

Прафсаюз настаўнікаў горада Чыкага сцвярджае, што каля 60 працэнтаў вучняў носяць пры сабе зброю. Для таго, каб як-небудзь забяспечыць бяспеку свайго жыцця, настаўніцкі прафсаюз арганізаваў праверку вучняў перад уваходам у школу. Але гэта мала дало карысці. Страляніна ў школах горада працягваецца.

Рост злачыннасці ў школах Амерыкі ставіць пад пагрозу навучальны працэс. З кожным годам усё больш юнакоў і дзяўчат пакідаюць школы без дастатковага аб'ёму неабходных ведаў. Многія зусім не атрымліваюць атэстаты. Каштоўнасць сярэдняй адукацыі значна знізілася.

Занепакоенае такім становішчам, федэральнае міністэрства асветы толькі ў мінулым годзе выдзеліла 30 мільёнаў долараў на падтрымку парадку ў школах. Было апрабавана каля 130 розных метадаў падтрымкі дысцыпліны. У Сан-Францыска, напрыклад, настаўнікі аснашчаны спецыяльнымі малагабарытнымі радыёстанцыямі для выкліку паліцыі. У Х'юстане вельмі эфектыўнымі зарэкамендавалі сябе мабільныя атрады паліцыі на верталётах, якія пастаянна знаходзяцца ў паветры. Праходзяць выпрбаванне розныя электронныя ахоўныя сістэмы.

А між тым злачыннасць не змяншаецца. Толькі ў мінулым годзе па ўсёй краіне ў час школьных заняткаў загінула каля 130 вучняў і некалькі настаўнікаў. Тысячы настаўнікаў вымушаны пакідаць працу з прычын фізічнай непрацаздольнасці ў выніку атрыманых траўм.

Амерыканскія афіцыйныя ўлады шукаюць выхад з тупіка шляхам лакальнай барацьбы са злачыннасцю, а не шляхам пошукаў карэнняў гэтай адмоўнай з'явы. Асноўная ж прычына яе тоіцца ў самім амерыканскім ладзе жыцця.

**М. І.**




**Жыццё, ахвяраванае людзям ● Як прайшоў год нашых творцаў ● „Шэрыя ваўкі“ ● Палотны Віктара Грамыкі ● Літаратурная старонка ● Леснікозы дні і ночы ● Рыгор Назарук з Ягаднікаў ● Беларусіяна ● Весткі з Беластока, Нараўкі, Дашоў, Гайнаўкі, Бельска, Ліпін, Парцава, Новаберазова, Кнаразоў, Белавежы ● Калі сніцца чорная суконка ● Каляндар „Нівы“ на 1977 год.**




**Poniedziałek — 27.XII.** 9.00 Kino TDC: „Złamana podkowa — film fab. radz. 12.45 Technikum Rolnicze — Język polski. 13.25 Wskazówki metodyczne. 15.50 NURT — Psychologia. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci: Zwierzyniec. 17.50 Siedemnaście mgnień wiosny — film ser. 19.00 Dobranoc dla najmłodszych i program dla młodzieży. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.40 Teatr TV: M. Gogol „Ożenek". 22.20 Camerata — program muzyczny. 22.25 Dziennik.

**Wtorek — 28.XII.** 6.30 Technikum Rolnicze — Język polski. 7.00 Wskazówki metodyczne. 11.30 Wojna i pokój — film ser. ang. 13.45 Technikum Rolnicze — Język polski. 14.30 Chemia. Przemiany związków organicznych w oborniku, gnojowicy i gnojówce. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Studio Telewizji Młodych. 17.50 Listy i polityka. 18.20 Program filmowy. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc dla najmłodszych i program dla młodzieży. 19.30 Wieczór z Dzienikiem. 20.40 Chwila prawdy — film fab. włosko-franc. 22.20 X Y Z cz. II. 22.55 Dziennik.

**Środa — 29.XII.** — 6.30 Technikum Rolnicze — Język polski. 7.00 Chemia. Przemiany związków organicznych w oborniku, gnojowicy i gnojówce. 11.30 Chwila prawdy — film fab. włosko-franc. 13.05 Technikum Rolnicze — Chemia. 13.40 Uprawa roślin. Zwiększenie urodzajności gleb Polski. 15.50 NURT — Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci: Zgadywanki obrazkowe. 17.30 Losowanie Małego Lotka. 17.45 Lektury Pegaza. 18.00 Fakty, opinie, hipotezy — Młot na czarownice. 18.35 Teatr Małych Form: Tomasz Mann „Wet za wet". 19.00 Dobranoc dla najmłodszych i program dla młodzieży. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.40 Miasto bezprawia — film fab. USA. 22.30 Soliści polskiego baletu — program muz. 22.45 Dziennik.

**Czwartek — 30.XII.** 6.30 Technikum Rolnicze — Chemia. 7.00 Uprawa roślin. 11.30 Miasto bezprawia — film fab. USA. 13.45 Technikum Rolnicze — Fizyka. 14.30 Hodowla zwierząt. Użytkowanie mięsne kur. Pomieszczenia. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla młodych widzów: Ekran z Bratkiem. 18.00 W górach. 18.20 Studio sport. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc dla najmłodszych i program dla młodzieży. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.40 Teatr Sensacji: Michael Carey „Osaczony". 21.55 Pegaz. 22.40 Dziennik.

**Piątek — 31.XII.** 15.55 Program dnia. 16.00 Dziennik. 16.10 Dla dzieci: Zapraszamy do Smoczej Jamy. 17.10 Tajemnice mórz — film dok. 18.00 Operowe qui pro quo — program muz. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.00 Przemówienie Noworoczne. 20.10 Zimermann gra Chopina. 20.25 Teatr Komedii. 21.25 Damski gang. — film fab. ang. 23.00 Rozrywkowy blok sylwestrowy.




**Piątek 24.XII** — 8.00 Film fab. 9.15 Koncert. 13.20 Film fab. 17.10 Balet. 17.55 Nasza biografia. Rok 1924. 19.30 Pr. rozr. 20.30 Boks.

**Sobota 25.XII** — 10.05 Koncert. 13.00 Film fab. 16.20 Nie do wiary. 17.20 Film fab. 20.55 Pr. muz.

**Niedziela 26.XII** — 11.40 Film fab. 14.40 Panorama międzynar. 15.25 Śpiewa E. Piecha. 16.15 Klub film. 17.15 Koncert. 17.35 Spektakl.




**Białowieża** Operacja „Dąb" — jug. 28—29.XII. Miłość w godzinach nadliczbowych — ang. 30—31.XII.

**Bielsk Podlaski** Abu Rajchan Biruni — radz. 28—29.XII. Brunet wieczorową porą — pol. 30—31.XII.

**Czyże** Dzień Szakala — ang. Kajtek i nowy braciszek — węg. 29.XII — 2.I.

**Dubicze Cerkiewne** Był sobie glina — fr. Julka, Julia, Juleczka — NRD 29.XII—2.I.

**Kleszczele** Poczekam aż zabijesz — czes. 28—29.XII. To niemożliwe — radz. 30—31.XII.

**Michałowo** Kraksa — wł. 28—29.XII. Zew krwi — ang. 30—31.XII.

**Mielnik** Obrazki z życia — pol. 29.XII.

**Milejczyce** Na przykład Józef — NRD 28—30. Wielki układ — pol. 30.XII — 2.I.

**Narew** Hallo taxi — radz. Kalendarz warszawski — pol. 28.XII—2.I.

**Narewka** Bilans kwartalny — pol. Operacja „Dąb" — jug. 29.XII—2.I.

**Nurzec** Trzy orzeszki dla kopciuszka — czes. 28—29.XII. To jeszcze nie miłość — NRD 30—31.XII.

**Orla** Królewskie marzenie — USA. Czarodziejskie dary — NRD 29.XII — 2.I.

**Rajsk** Jesień debiutantów — rum. Anna i komandor — radz. 29.XII — 2.I.

B.Z.Graf. Zam. 2945 F-4

# Дні савецкага фільма

Дні савецкага фільма, трыццатыя ў гэтым годзе, гэта была яшчэ адна нагода, каб паказаць нашаму гледачу дасягненні савецкай кінематаграфіі. А паказваць ёсць што. У Савецкім Саюзе ў год родзіцца аж сто сорак мастацкіх і сто тэлевізійных фільмаў. Кожны дзень перад экранамі кіно засядае аж дванаццаць мільёнаў гледачоў. Вялікая частка гэтых фільмаў ідзе за межы, а між іншым, і да нас у Польшчу, дзе кожны год паяўляецца сорак новых фільмаў.

Сёлетнія Дні савецкага фільма ў Варшаве былі адкрыты прэм'ерай фільма С. Бандарчука „Яны змагаліся за айчыну“, у якім выступілі акцёры: В. Ціханаў, В. Шукшын і С. Бандарчук. Знакамітая ігра акцёраў і мастацкая прадуманасць з боку рэжысёра — і гледачы ды крытыкі бясспрэчна сцвердзілі, што гэты фільм з'яўляецца найлепшым фільмам года. Цікавая была праграма сёлетніх Дзён савецкага фільма. Былі тут і такія, якія сёння залічваем ужо да класікі, і такія, якія толькі што ўваходзяць на экраны. Адным з цікавейшых мерапрыемстваў, наладжаных з гэтай нагоды, быў агульнапольскі семінар „Сучасны савецкі фільм у святле ленінскай канцэпцыі культуры“, які адбываўся ў варшаўскім ДКФ-е „Квант“ ад 4 да 9 лістапада. З усіх бакоў краіны прыбылі шматлікія дэлегацыі ДКФ-аў і прадстаўнікі „фільмовага свету“. Былі таксама акцёры і рэжысёры з Савецкага Саюза. Семінар гэты ператварыўся ў шчырую дыскусію. Часта канверсацыя працягвалася да позніх гадзін, таму што было над чым падыскутаваць. Вось хаця б „Прэмія“ С. Мікаельяна, „Прашу слова“ Г. Панфілава, „Афонія“ Г. Данеліі, „Печкі-лавачкі“ В. Шукшына, „Белы параход“ Б. Шамшыева. Закранаюць яны тыя сучасныя праблемы, якія стаяць амаль перад кожным гледачом. Ды і з мастацкага боку гэта фільмы дасканалыя.

Савецкія творцы фільма даволі часта парушаюць гістарычныя тэмы: рэвалюцыйную і ваенную. Да гэтай групы фільмаў, закранутых у семінарнай дыскусіі, трэба аднесці „Пакланіся агню“ Т. Акіева, „Ніхто не хацеў паміраць“ Жэлякевіцюса, „Нявольніца кахання“ М. Міхалкова. Гэты апошні, з увагі на сваю спецыфіку, заслугоўвае на тое, каб больш дакладна да яго прыгледзецца. Тэма, праўда, не новая. З'яўляецца ёй вузенькі адрэзак чалавечага жыцця ў час рэвалюцыі. Але малады таленавіты рэжысёр падышоў да яе зусім па-другому, як ніхто дагэтуль у савецкай кінематаграфіі. Рэжысёра цікавіла пастава чалавека, які ў гэтым пераломным моманце гісторыі быў вымушаны заняць або адну, або другую пазіцыю. Каб больш усебакова і глыбока паказаць матыў перамен, заходзячых у героі, Міхалкоў у сваёй меладраме, бо так назваў фільм, выкарыстаў дакументальныя здымкі з часоў рэвалюцыі, а таксама ўвёў камічныя элементы. Ад пачатку да канца адчуваецца іронія рэжысёра ў адносінах да герояў, якія штучным спосабам хочуць адкаснуцца ад рэвалюцыйнага жыцця. Чым заваявала ўвагу гледача „Нявольніца кахання“? Магчыма, тым модным стылем, у якім утрыманы гэты фільм. Але, бадай, больш значным з'яўляецца тут індывідуальнасць рэжысёра. І калі глянем на фільм Міхалкова не з боку парушанай тэмы, а з боку таго, як яе творца перадаў, то аднясем гэты фільм да групы фільмаў, у цэласці сучасных.

Пераходзячы да фільмаў, сучасных тэматычна, хацелася б затрымацца пры „Печках-лавачках“ В. Шукшына. Ужо пачатак захапляе ўвагу гледача сваёй праўдзівасцю і дакументальнасцю. З першай карціны глядач ужо ведае галоўную праблематыку фільма. Вось сцэна ў вясковай хаце, запоўненай людзьмі. Танцуюць. Ёсць тут і старыя і маладыя, гарадскія і людзі вясковыя. І гэта ўжо падказвае, што галоўная праблема — вёска і горад. Шукшын, выконваючы ролю галоўнага героя, стварыў поўную постаць вясковага жыхара, які разумее патрэбу перамен на вёсцы, які зайздросціць гарадскім іхняга жыццёвага камфорту, але адначасова адчувае сябе кімсь лепшым ад іх і пры кожнай нагодзе гэта падкрэслівае. Вось сцэна з цягніка. Іван — галоўны герой — едзе з жонкай адпачываць у Крым. І тут усё разыгрываецца. Іван робіць страшэнны скандал начальніку цягніка, які прабаваў перарабіць яго вясковыя паводзіны на гарадскія. Не абмінае гэты скандал і прафесара мовазнаўства, які хацеў паслухаць Іванаву мову, трактуючы яго як прыклад „сапраўднага творца мовы“. Адначасова Шукшын дасканала паказвае паводзіны вясковага чалавека ў горадзе. Паказвае кантрасты паміж вёскай і горадам. Не паказвае аднак, дзе тут добрае, а дзе дрэннае. Яго фільм — гэта вобраз жыцця, які падсоўвае гледачу да дыскусіі.

Зусім іншую групу фільмаў прадстаўлялі „Белы параход“ Шамшыева, „Чалавек бяжыць за птушкамі“ Хамраева і „Маленне“ Абуладзе. Гэта фільмы паэтычныя. Адкрываюць яны праўду аб жыцці. Часта закранаюць справы балючыя і кантраверсійныя. Але тую лютасць, якая тут прадстаўлена, можна зразумець і падтрымаць тым, што рэжысёр хацеў паказаць гледачу вывады, вынесеныя з жыццёвай практыкі.

**Васіль Таранта**

# Новае ў народным будаўніцтве

У апошнія два дзесяцігоддзі ў нашыя сёлы і мястэчкі пераможным наступленнем урываецца мураванае будаўніцтва. Уносіць яно ў нашую штодзённасць больш святла і прастору, дазваляе на абсталяванне шыкоўнай сучаснай мэблі, і, урэшце, уводзіць у звычку карыстанне з ваннай з цёплаю вадою, словам — яно абазначае вышэйшы ўзровень нашага штодзённага жыцця. Але адначасова з адыходам колішніх драўляных будынкаў, пачала знікаць і народная разьба па дрэву. Замест аздобленых разьбою, бы карункаю, прыгажуняў хат, з якіх кожная мела свой адметны і непаўторны воблік, пачалі выстройвацца ў роўныя шарэнгі бязлікія шэрыя карабкі, падобныя адна на другую, як дзве кроплі вады.



Аднак, здаецца, што ў апошнія гады наступае адыход ад паўсюднага захаплення новым будаўніцтвам пад адзін шаблон. У шэрагу вёсак і мястэчак Беласточчыны ўсё часцей пачалі паяўляцца дамы з нетыповым знешнім выглядам, каляровымі тынкамі, а таксама з мастацкай кладкай уперамешку керамічнай цэглы з пустакамі ці керамічнай цэглы з сілікатнай або іншыя будаўнічыя прыёмы, якія выразна маюць на мэце ўпрыгожыць будынак, выдзяліць яго сярод іншых.



Гэтае новае і дастойнае пахвалы імкненне ў сучасным народным будаўніцтве асабліва кідаецца ў вочы ў вёсцы **Машчона Каралеўская** ў гміне Мельнік, гэта значыць, на нашым старажытным Надбужжы. Вёска знаходзіцца на старадаўнім гасцінцы — „пуці“ з Мельніка ў Драгічын, яе пачаткі схаваны ў глыбі стагоддзяў і адносяцца да тых часоў, калі пачалося засяленне гэтых земель. І хіба ж у гэтых будаўнічых традыцыях, якія трэба мерыць не гадамі, а тысячагоддзямі, ляжыць натуральная патрэба тутэйшых жыхароў здобіць свае дамы незалежна ад таго, з якіх матэрыялаў яны ўзводзяцца.

Вядома, пустакі ды цэгла — матэрыялы вельмі непадатлівыя на мастацкую апрацоўку, таму прымяняецца такі спосаб іх кладкі ў сцяну, які ў выніку дае своеасаблівы мастацкі выраз, арнамент. У большасці будынкаў заўважаецца імкненне муляраў здобіць вуглы, сцены навокал акон, падстрэшшы, шчыты, гэта значыць — тыя часткі будынка, якія ў ранейшым драўляным будаўніцтве здобіліся рэзбленай шалёўкай або спецыяльнымі вырэзбленымі ліштвамі. Вынікі гэтых мастацкіх спробаў розныя, часам з-за падабенства колеру арнамент губіцца. Але часцей за ўсё ён выразна ажыўляе будынак, робіць яго прываблівым для вока, дае яму лёгкасць. Асабліва гэта заўважаецца ў адмысловай кладцы падстрэшша з сілікатнай шэрай цэглы, яно мае выгляд ажурнасці.

Новай з'явай у нашым народным будаўнічым мастацтве з'яўляецца спроба запоўніць чым-небудзь вялікія плошчы сценаў. У Машчонай Каралеўскай ёсць адзін будынак, у якім муляр спрабаваў на сценах выкласці з сілікатнай ды керамічнай цэгел нейкія аграмадныя ромбы — элемент вельмі часты ў народным мастацтве, а шчыт у гаспадарчым будынку аздобіць трохкутнікамі.

Гэта вельмі цікавыя спробы. Сёння яшчэ цяжка сказаць, у якім напрамку яны пойдуць. Але ўсіх нас цешыць тое, што ў новае мураванае будаўніцтва ў вёсках і мястэчках Беласточчыны пачынае ўваходзіць знешняе мастацкае здабленне.

І так, патрэба ўпрыгожваць жыццё не памерла і ў наш час.

**М. Гайдук**
Фота аўтара

# Гісторыя беларускага адрыўнога календара

У пачатку 20-х гадоў у гістарычным памяшканні Завальная 7 — рог Малой Пагулянкі (цяпер вуліца Кастуся Каліноўскага), дзе была калісь рэдакцыя „Нашай нівы“ і „Віленская беларуская кнігарня“, існавала кнігарня Віленскага выдавецкага таварыства.

Загадчыкам кнігарні быў Станіслаў Станкевіч, якога мы называлі „кнігаром“. Не змешваць з другім Ст. Станкевічам, які ў той час быў студэнтам, а мо нават яшчэ вучнем Віленскай беларускай гімназіі. Станіслаў Станкевіч як загадчык кнігарні быў чалавекам на сваім месцы. Энергічны, ён вельмі дбаў пра прапаганду беларускай прэсы і літаратуры сярод сялян, якія асабліва ў торговыя дні — аўторак і пятніцу — масава наведвалі кнігарню.

Даючы на камісійны продаж грамадаўскія газеты, я як адміністратарка адноснай рэдакцыі бывала ў кнігарні.

Неяк летам 1925 г. пайшла я разлічыцца з кнігаром за прададзеныя ім газеты. Заўважыўшы яго незвычайна благі настрой, я запытала ў чым справа.

— Дык як не нервавацца, — адказаў кнігар, — вось-вось прыйдзе канец года і зноў прыдзецца адпраўляць людзей ні з чым... Ужо каторы год сяляне пытаюцца пра беларускі адрыўны каляндар. Ім цікава, адрываючы лісток, знайсці на адвароце нейкую гаспадарскую параду, або верш, або вясёлы жарт... А такога календара ў нас як не было, так і няма. Толькі календары-кніжкі. Вось і ідуць нашыя сяляне купляць або польскія адрыўныя календары, або расейскія. Ці ж гэта добра?

Яго разважанні здаліся мне зусім справядлівыя і годныя ўвагі.

І тут прыйшла мне ў галаву думка: а мо пагаварыць з нашымі пасламі і папрасіць у іх пазыку? — Продаж календароў — рэч пэўная, грошы вернуцца.

Гутарку з пасламі я ўзяла на сябе. На жаль, у адказ пачула: „А каму ён патрэбны, такі каляндар?“ — Што ж, болей не было аб чым гаварыць. Не чакаючы, я паведаміла кнігару аб выніку гутаркі. Яму гэта справа, мусіць, моцна набалела, не хацеў яе пакінуць.

— А што, каб мы самі папрабавалі выдаць каляндар? Я дам 50 злотых, на паперу бадай хопіць, а іншыя выдаткі: друк, кнігасшытніка, наборшчыкаў, супрацоўнікаў аплоцім пасля продажу календара...

Добра, будзем прабаваць... Уласнік друкарні і нашы наборшчыкі згадзіліся працаваць у доўг. Знайшліся і супрацоўнікі: Янка Маразовіч (Янка Маланка — рэдактар гумарыстычнага ча-

(Працяг на стар. 5)

 

(Працяг са стар 1)

# БАЦІКІ ЗАДНІЯ

Новыя часы ўпісваліся ў жыццё і памяць бацікоўцаў падзеямі і вялікімі і трагічнымі. Ужо з першых дзён гітлераўскай акупацыі ў гэтых ваколіцах разгарнуўся **партызанскі рух.** Яго ядром былі афіцэры і салдаты Чырвонай Арміі, якія ў выніку раптоўна разгортваючыхся падзей аказаліся ў тыле ворага. Шмат іх спачатку скрывалася ў Баціках, а потым падалося ў партызанскі атрад С. В. Пацярухі, брыгаду імя Панамарэнкі Брэсцкага партызанскага злучэння, атрад „Савецкая Беларусь" і іншыя. Партызаны накіроўвалі свае ўдары перш за ўсё супроць шляхоў зносін ворага: узрывалі масты, знішчалі тэлефонную сувязь і перш за ўсё — вельмі часта падрывалі цягнікі на лініі Сямяцічы — Чаромха. 18 сакавіка 1944 г. у Бацікі, Толвін, Грабарку і іншыя суседнія мясцовасці прыбыла славутая **Першая Украінская партызанская дывізія імя С. Каўпака.** Цераз Бацікі Заднія прайшла яе першая рота другога палка і заняла пазіцыю ў суседняй вёсцы Толвін. Немцы супраць яе кінулі значныя сілы, бой ішоў каля пяці гадзін, у яго выніку на толвінскіх і бацікоўскіх палях засталося 50 трупаў фашыстаў.

Першыя гады пасля вызвалення былі тут асабліва цяжкія, нейкі час панавала сапраўднае дзвюхуладдзе: удзень дзейнічалі органы народнай улады, уночы ж разгульвалі банды рэакцыйнага падполля: абкладвалі сялян кантрыбуцыяй, грабілі, здзекваліся, выганялі з сяла. Шмат хто з бацікоўцаў не стрываў і, сабраўшы свой небагаты хатні скарб, назаўсёды пакінуў роднае сяло.

Разам з умацаваннем народна-дэмакратычнага ладу ў краіне нармавалася і жыццё ў сяле. Сяляне пачалі больш увагі прысвячаць працы ў полі і гадоўлі, шмат хто знайшоў дадатковы занятак на розных прадпрыемствах у суседніх Сямяцічах, маладое пакаленне падалося вучыцца. Сёння нават найбольш памятліваму бацікоўцу цяжка пералічыць усіх, хто з гэтага сяла атрымаў вышэйшую адукацыю. Інжынерамі, між іншым, сталі: **Віктар Варабей, Аляксандр і Юры Семянюкі, Іосіф Саўчук,** аграномам — **Васіль Семянюк,** настаўніцамі — **Люцына і Валянціна Саўчук,** многа асоб закончыла сярэднія прафесіянальныя школы, некаторыя вучацца і цяпер.

Бацікі Заднія — сяло наседжанае, з традыцыямі. Аднак і ў ім адбываюцца пераўтварэнні, што вядуць да карэнных перамен у нашай сельскай гаспадарцы. Дагэтуль ужо сем бацікоўцаў здалі свае гаспадаркі дзяржаве за пенсію, неўзабаве іх следам пойдзе некалькі прастарэлых сялян, у якіх і ўраджаі слабенькія і гадоўлі амаль ніякай няма. Здадзеная ў дзяржаўны фонд зямелька не заўсёды трапляе ў дбайныя і працавітыя рукі. І так, у вёсцы змяншаецца і агульная колькасць сабранага збожжа і пагалоўе жывёлы. Але ў гэтым даволі сумным вобразе ёсць і абнадзейваючыя факты. Ужо на першы позірк відаць, што вёска будуецца: узводзіць прасторныя мураваныя дамы з цэнтральным ацяпленнем і водаправодам, абшырныя хлявы і клуні з думкай пра высокія ўраджаі і значную гадоўлю. На чало сяла выбіваюцца самыя працавітыя і ўмелыя гаспадары. Сярод іх, напрыклад, **Сцяпан Чупрынка** вельмі карпатліва і дбайна займаецца вырошчваннем збожжа і іншых раслін, мае добрую гадоўлю быдла і свіней, апрацоўвае ўласную гаспадарку і дапамагае суседзям сваім трактарам і камплектам машын. Браты **Ян і Мікалай Саўчукі** нядаўна збудавалі ад фундаментаў новы дом, хлявы, клуню, сталярню, набылі трактар і машыны да яго. Са свае 13-гектаровай гаспадаркі яны дастаўляюць дзяржаве ў год 3-4 штукі ўбойнага быдла, каля 15 кормнікаў, трымаюць 3 дойныя каровы, кантрактуюць 3 га жыта і 1 га рапаку. Пры гэтым **Ян Саўчук** — вядомы ў ваколіцы столяр, у яго многа заказаў на вокны, дзверы і іншае абсталяванне для новага будаўніцтва.

Аказваецца, у зарасніках чарнасліву над рэчкаю Магамет сядзяць Бацікі зусім не Заднія, хоць яны так называюцца.

**Мікалай Гайдук**

# ПОСПЕХІ БЕЛАСТОЦКІХ СКР

Асноўны цяжар апрацоўкі зямельных угоддзяў дзяржфонду (ПФЗ), якія паходзяць перш за ўсё з гаспадарак, здадзеных дзяржаве старымі сялянамі-аднаасобнікамі за пенсію, узялі на сябе спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў. У Беластоцкім ваяводстве яны гаспадараць на 20 000 гектарах зямлі не надта добрай якасці, а ў дадатак раскінутай у шматлікіх, нярэдка вельмі дробных кавалачках. Так званая „нічыя" зямля ў многіх выпадках паспела прарасці ўсялякім пустазеллем, кустамі або бывае вельмі камяністая. Дагэтуль СКР-ы добраўпарадкавалі 1000 гектараў зямельных угоддзяў і тут вядзецца інтэнсіўная гаспадарка.

Сёлета спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў дасягнулі добрых ураджаяў збожжавых культур. Сабралі ў сярэднім не менш 23 цэнтнераў з гектара. СКР у Заблудаве сабраў па 46 цэнтнераў з гектара пшаніцы, СКР у Бранску — звыш 45 ц/га ячменю, а СКР у Вышках — да 43 ц/га аўса. Спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў у Васількове сабрала ўраджай у сярэднім 30,6 ц/га са 103 гектараў ворнай, як тут называюць пшанічна-ядлаўцовай, зямлі і на пункты скупкі даставіла больш 320 тон збожжа. СКР у Нараўцы з сядзібай у Міклашэве прадаў дзяржаве 152 тоны збожжа. СКР-ы ў Гарадку і Заблудаве сабралі ў гэтым годзе ўраджай з 436 га і 550 га зямельных угоддзяў. Усе беластоцкія СКР-ы даставілі ў дзяржаўныя магазіны ПЗЗ і насеннай цэнтралі 13 000 тон збожжа — у 2,5 раза больш, чымсьці ў мінулым годзе.

Другой даволі развітай дзялянкай працы спулдзельняў сельгасгурткоў з'яўляецца жывёлагадоўля. На працягу гэтага года ў СКР-ах падвоілася колькасць свіней. СКР у Шудзялаве прадае дзяржаве па 1 200 штук свіней у год. Ён атрымае вялікую свінаферму на 6 тысяч свіней, якая будзе ўзведзена ў Слойцы. СКР у Бельску займаецца адкормам свіней у вёсцы Шасталы. У гэтай справе ён наладзіў цеснае супрацоўніцтва з сялянамі-аднаасобнікамі.

У мінулым годзе была пабудавана першая вялікая ферма для 400 букатаў (убойнага быдла) у Васількове, непадалёку ад Беластока.

У палавіне гэтага года СКР-ы мелі больш 2 600 штук быдла, у тым ліку значную колькасць у кааперацыі з індывідуальнымі вясковымі гаспадарамі.

Рушыла ў СКР-ах гадоўля авечак. Зараз яны маюць іх 1 600 штук, але ў палавіне 1977 года будзе ў два разы больш.

Варта дадаць, што **СКР-ам, асабліва** на Беласточчыне, з кожным годам прыбывае зямлі. Таму ваяводскія ўлады спулдзельняў сельгасгурткоў апрацавалі перспектывічныя шматгадовыя планы яе загаспадарання. Гаспадаркі СКР-аў стануць высокатаварнымі камбінатамі з уласнымі будаўнічымі і перапрацоўчымі прадпрыемствамі.

**(ця)**

# Аляксандр Вэльс



Памёр нечакана 8 снежня ў мокры зімовы дзень, маркотны, як асеннія пейзажы Вэльса. Нечакана для ўсіх, хаця ўсе ведалі, што Вэльс з 1902 года. Памёр нечакана, бо жыў поўняй жыцця аж да апошняй хвіліны. Усюды ён паспяваў, для ўсіх быў проста „Олькам".

Чалавек высокай культуры і невычэрпнай энергіі, ён адчуваў сябе маладым, як адчуваў сябе маладым кожны, хто меў прыемнасць сустракацца з ім. Быў вясёлы, поўны гумару. Яго прысутнасць удыхала ў людзей добры настрой, веру ў жыццё і ў патрэбу мастацтва. Быў душой белавежскіх пленераў.

А. Вэльс быў мастаком-пейзажыстам. Закідалі яму традыцыяналізм, замалую выразістасць карцін, а ён упарта ішоў сваёй дарогай, пакідаючы для нашчадкаў хвалюючыя вобразы роднай прыроды. Убачыш яго карціну, дзе крыху і смутку і меланхоліі, і нешта ў сэрцы зашчыміць, заные...

Хаця нарадзіўся Аляксандр Вэльс у Варшаве, а вучыўся ў Варшаве і Кракаве, то ад часоў вайны быў трывала звязаны з Беласточчынай. Шмат год апяваў ён яе ў сваіх бязлікіх карцінах, ці былі гэта белавежскія дубы-волаты, ці разлівістая Нарва, ці звычайная беластоцкая вёска. Не маляваў палацаў, не патрабаваў мадэлек. Маляваў, як хацеў, як любіў. Амаль заўсёды пастэльнымі колерамі. Таму пейзаж яго выглядаў, нібы за імглой.

Маляваў да апошніх дзён жыцця.

Толькі што, здаецца, гаварыла я з ім на выстаўцы прац Юзэфа Харытона. Жартаваў, што падстаўляю для пацалунку не руку, а пярсцёнак — нібы біскуп...

Хацела набыць ад мастака адну з яго карцін з апошняга белавежскага пленеру — пейзаж, шэрыя вясковыя хаткі, асеннія палі, лес. Сумны, а адначасова які радасны! Такі, якім быў сам мастак.

Не паспела.

**Ада Чэчуга**

# АД РОДНЫХ НІЎ

*Што ты, час, так бяжыш тарапліва,*
*Хто цябе так жане і куды?*
*Ты б цягнуўся павольна, ляніва,*
*Я б даўжэй тады быў малады.*
*Праз цябе год кароткі зрабіўся,*
*Месяц ў міг пралятае, бы дзень.*
*Я дзяцінства гадоў не забыўся,*
*А ўжо сумная старасць ідзе.*
*Што, ты думаеш мне надаела*
*Родным полем у нівах хадзіць?*
*Збожжа слухаць, як шэпчацца спела,*
*Як лес песняй птушынай шуміць?*
*Я ж не зведаў яшчэ тых прастораў,*
*Не нажыўся у родным краю,*
*Мала бачыў я рэк і азёраў,*
*Не наслухаўся песень ў гаю.*
*Знаю, час, пра цябе я ўжо многа,*
*Ў жыцці добрым ты хутка ідзеш,*
*Бо як гладка тупкая дарога,*
*Па ёй быстра і больш павязеш.*

**А. Леўшук**
Ціванюкі

# Кажуць, што...

Адзін беластоцкі грамадскі суд, разглядзеўшы справу грамадзяніна Н., прапанаваў яму часцей бываць дома. Зацікаўлены растлумачыў, што яго паводзіны зыходзяць з педагагічнага закону:

— Я вымушаны вяртацца дамоў на світанні, калі дзеці спяць — каб не бачылі бацьку на газе.

# ЗВЫШ ПЛАНА

Звышпланавую прадукцыю выпусціла на рынак міхалоўскае прадпрыемства суконнай прамысловасці. 360-асабовы рабочы калектыў выткаў дадаткова 3 000 метраў першаякаснага сукна і нарыхтаваў 2 000 кілаграмаў пражы. Тут усе рабочыя змагаюцца за высокую якасць сваіх тканін. Яны дабіліся таксама высокай прадукцыйнасці працы. (ця)

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

## МАКСІМ ГАРЭЦКІ — ЧАСТКА II

**Творчасць.** Першы перыяд творчасці Гарэцкага змяшчаецца ў часовых і ідэйных рамках „Нашай нівы". Дэбютаваў пісьменнік ў 1912 годзе, а праз два гады выдаў даволі абшырны зборнік апавяданняў „Рунь". У гэтым зборніку пісьменнік змясціў наступныя творы: „Рунь", „У лазні", „Атрута", „Роднае карэнне", „Страхоцце", „Красаваў язьмін", „У панскім лесе", „Лірныя спевы", „Што яно", „У чым яго крыўда".

Ужо гэтым зборнікам Гарэцкі давёў, што з'яўляецца адным з найвыдатнейшых, а можа найвыдатнейшым беларускім празаікам нашаніўскага перыяду. Па сутнасці быў ён першым беларускім пісьменнікам, які заўважыў і апісаў праблемы, вынікаючыя з факту пераходу вясковага чалавека ў горад. Постаць вясковага хлопца, які дзякуючы адукацыі становіцца інтэлігентам і тым самым пачынае ў многім думаць па-другому, чым яго бацькі і вясковыя суседзі, з'яўляецца адной з галоўных фігур у творчасці пісьменніка. Духоўныя камплікацыі інтэлігента вясковага паходжання, яго атавістычная цяга да вясковага мінулага, да сялянскай прастаты і шчырасці, да прыгажосці прыроды, да легенд і паданняў ідзе поплеч з адмоўнай рэакцыяй на вясковую цемру, адсталасць, грубасць, хамства, словам, вясковая рэчаіснасць дзейнічае на герояў Гарэцкага, як прорва — вабіць і адпіхае. Такі тып чалавечай паставы мусіў быць вельмі характэрны для Беларусі вялікіх гістарычных зрухаў, якія скранулі з месца засядзелага беларуса. Характэрны ён і для беларусаў з сённяшняй Беласточчыны.

Героі Гарэцкага вельмі розныя. Адным з іх здаецца, што цывілізацыя і навука раз і назаўсёды вырашаць усе праблемы і ўсе пытанні. І яны ва ўсім традыцыйна вясковым бачаць толькі форму развіцця і таму знаходзяцца як найдалей ад вясковай рэчаіснасці. Другія бачаць, што навука і прагрэс ніколі не дадуць адказу і ніколі не выясняць усёй істоты свету, усіх тайнаў чалавечага быту і яго натуры. І такім героям здаецца, што мужыцкая арганічная сувязь з зямлёй, сялянская інтуіцыя, філасофія чалавека вёскі, а таксама яго спецыфічны практычны рацыяналізм часта могуць больш трапна разгадаць загадкі жыцця, чым навука.

Так ці інакш, амаль усе героі Гарэцкага ўнутрана раздвоеныя. І ў гэтым, між іншым, праявілася спеласць яго пісьменніцкай манеры. Для вельмі маладых літаратур, як і для ўсіх упрошчаных ідэалогій свету, рэчаіснасць, людзі змяшчаюцца ў дзвюх супрацьстаўных формулах: добры — злы, альтруістычны — эгаістычны, вясёлы — сумны, белы — чорны. На такіх прынцыпах абапіралася амаль уся беларуская літаратура XIX стагоддзя. Многа з такога падыходу да жыцця і людзей знойдзем таксама ў творчасці беларускіх пісьменнікаў перыяду „Нашай нівы". Сказанае адносіцца і да найвыдатнейшых прадстаўнікоў нашай літаратуры. Сляды такога метаду знойдзем і ў самога Гарэцкага. Значыць, і ён знаходзіўся пад уплывам упрошчанай традыцыі. Пры гэтым, аднак, нельга не памятаць, што якраз Гарэцкі зразумеў галоўны „грэх" беларускай літаратуры і ў сваю творчасць пачаў уводзіць чалавека складанага, многаколернага, многапрадметнага.

Гарэцкі адкінуў панаваўшае ў беларускай літаратуры яўнае, інтэрвенцыйнае маралізатарства і дыдактызм. Перастаў даваць геніяльныя рэцэпты на ўсе хваробы грамадства. Зразумеў, што такіх рэцэптаў адзін пісьменнік для ўсіх суайчыннікаў мець не можа. Гарэцкі часцей пытае, чым адказвае, і пытае так, каб чытач стараўся шукаць адказ. Пісьменнік выразна імкнуўся да актывізацыі чытача, мабыць, вершыў у яго магчымасці, у яго здольнасці, у яго сілу — у гэтым і праяўляецца спецыфіка таленту, інтэлекту і сіла Гарэцкага-пісьменніка.



 

